**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 04 (825) 28 студзеня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

Штотыднёвая газета
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае






Фота Змітра Лупача.


Асвячэнне крыжа на востраве возера Вялікае.

## “Палепшым закон разам”

Міністэрства ўнутраных спраў запрашае грамадзян да абмеркавання прапановы па лібералізацыі адміністрацыйнага заканадаўства. Рэкамендацыі можна накіраваць па электроннай пошце ***mneniemvd@mail.ru*** або пакінуць на афіцыйным сайце МУС у рубрыцы “Палепшым закон разам”. Яны таксама прымаюцца ў пісьмовым выглядзе па адрасе: 220030, г. Мінск, вул. Гарадскі Вал, 4, упраўленне інфармацыі і грамадскіх сувязяў, з пазнакай “Законы”.

Грамадзяне таксама могуць прыняць удзел у адкрытым галасаванні на афіцыйным сайце МУС”.

З павагай,

**В.І.Васюковіч,**
*начальнік аддзела ўнутраных спраў Глыбоцкага райвыканкама.*



## У ІП з Докшыцкага раёна скралі з дома валюты 300 млн рублёў

**Прадпрымальніца з Докшыцкага раёна пазбавілася больш за Br300 млн у эквіваленце, пакуль адлучылася з дома, паведамілі ў прэс-службе УУС Віцебскага аблвыканкама.**

Жанчына 1955 года нараджэння з Бягомля, што гандлюе адзеннем сэканд-хэнд, падала заяву ў міліцыю адразу, як выявіла прапажу, – днём 22 студзеня. Пакуль яе з мужам не было, злачынец адціснуў ўваходныя дзверы прыватнага дома, не абсталяванага ахоўнай сігналізацыяй, і скраў 9 тыс. еўра, $3,7 тыс., 12 тыс. расійскіх рублёў і Br15 млн. Дамушнік у пошуках грошай старанна абшукаў увесь дом. Ён ведаў, хто гаспадары, і ў які момант іх не будзе.

Раённы аддзел Следчага камітэта пачаў крымінальную справу па ч.4 арт.205 (крадзеж у асабліва буйным памеры) КК Беларусі. Расследаванне працягваецца.

***БелТА.***

















ISSN 2077-8023



**По краіне**

# Прадчуванне малочнай вайны?

■ Станіслаў Раманчук.

**Вось ужо колькі часу нездарма гавораць у свеце пра суседнюю Расію, што розумам гэту краіну цяжка зразумець.**

Выпадкова гэта адбылося ці не, аднак у студзені пры перасячэнні яе граніцы практычна сінхронна расійскія ветслужбы забаранілі ўвоз беларускай малочнай прадукцыі адразу некалькіх нашых лепшых вытворцаў. У лік іх патрапіла і пітное стэрылізаванае малако вытворчасці Глыбоцкага МКК, прычым яго партыя 4 тоны прадназначалася ўвогуле спажыўцам у Казахстане. Аднак, падчас кантролю на пункце пропуску чыгуначнай станцыі "Бранск-Льгоўскі" расіяне прычапіліся да запоўненага быццам з парушэннямі ветэрынарнага сертыфіката Мытнага саюза, які выдае дзяржаўная ветэрынарная служба Беларусі. Завярнулі назад на расійскай граніцы на пункце кантролю "Чырвоная Горка" і 20 тон сметанковага масла, якое вырабілі на Лепельскім МКК. На гэты раз расіянам не спадабалася, у якіх санітарных умовах перавозілася наша прадукцыя. Таксама ў Смаленскую вобласць не пусцілі і такую ж партыю з 20 тон масла, якую вырабілі на айчынным прадпрыемстве гармалзавод №2 у Мінску "Малочны гасцінец". Расіянам таксама не спадабаўся, як быў запоўнены беларускамі ветэрынарны сертыфікат МС. Падставай для забароны ўвозу партыі сыроў Рагачоўскага МКК пад назвай па іроніі лёсу "Расійскі новы" з'явілася нібыта адсутнасць гарантый бяспекі з боку вытворцаў. Акрамя гэтага, ужо колькі разоў расійскія лжэ-фірмы і кампаніі проста кідалі беларускіх вытворцаў за пастаўленыя прадукты харчавання на дзясяткі мільярдаў рублёў.

**Полацкі раён**

# На розных палюсах

■ Кастусь Александровіч

**Зусім невыпадкова менавіта ў глыбінцы цяпер найбольшыя праблемы не толькі з затрым–камі мізэрнай зарплаты, але і ўзніклі даўгі па выплатах дзіцячых дапамог, іншых сацыяльных плацяжоў.**

Да нядаўняга часу многія гаспадаркі набіралі авансам даўгоў у банках, прадпрыемствах мясамалпрама, не задумваліся аб эфектыўнасці гаспадарання, плацілі незаробленыя грошы. Аб гэтым узгадвалася днямі ў Полацкім раёне, дзе прайшоў прадстаўнічы абласны семінар-нарада па павышэнню эфектыўнасці дзейнасці жывёлагадоўчай галіны. Паўночны рэгіён мае ўсе падставы, каб атрымоўваць шмат мяса і малака, але зараз ён самы адстаючы ў краіне. Сёлета дапрацаваліся да таго, што ўжо ў 22 гаспадарках вобласці ў сакавіку закончацца кармы, а завязць салому, іншы фураж сталі толькі лічаныя з іх. Недакорм статку назіраўся яшчэ напрыканцы лета летась, калі павыгаралі пашы, а таксама падчас пастаноўкі жывёлы на зімова-стойлавы перыяд. На Віцебшчыне пабудавалі і аднавілі 129 сучасных ферм з даільнымі заламі, з'явіліся і фермы з даярамі-робатамі, але чамусьці на 20 з іх надоі, як у коз, меней 3 тысяч літраў за год. Звыш 30 гаспадарак маюць яшчэ больш нізкую прадукцыйнасць статку з надоямі меней 2500 кг малака. У той самы час надоі на ферме ААТ "Лаўрынаўка" сталі еўрапейскімі – 9345 літраў на карову. Набліжающца да гэтага паказчыка і на мясцовай ферме сельгасфіліяла "Вясна-энерга" РУП "Віцебскэнерга", якую наведалі ўдзельнікі семінару. Да 60 тон малака класам "экстра" атрымоўваюць на ёй у суткі, а прывагі цялят на адкорме сталі 750 грам, бо прытрымліваюцца тэхналогій і дысцыпліны кадраў. Далейшы лёс іншых малапрадуктыўных ферм у будучым можа стаць зусім незайздросным, яны самі сябе прывядуць да ліквідацыі.

**Пастаўскі раён**

# Жыві і бойся

■ Чэслаў Якубовіч.

**Найбольш неабароненымі ў наш час застаюцца часта адзінокія састарэлыя грамадзяне, якія дажываюць свой век у таксама выміраючых і пусцеючых з кожным годам вёсачках.**

Вось і ў Пастаўскім раёне многіх шакіравала, калі днём загінула зусім побач з райцэнтрам пенсіянерка, а потым яе забойца з сякерай яшчэ напаў і параніў мясцовага паштальёна. Сапраўдная трагедыя адбылася ў вёсцы Баранавічы, адкуль да горада ўсяго некалькі км. Менавіта там перыядычна наведваўся да 74-гадовай гаспадыні дома мясцовы лайдак і нешта жанчыне дапамагаў па гаспадарцы. У той дзень ён таксама прыйшоў да сваёй знаёмай, бо ведаў, што ёй павінны даставіць пенсію. Якія эмоцыі бушавалі там, можна толькі здагадвацца, але раней судзімы за крадзяжы свайго не дамогся і старую забіў. Пасля гэтага на машыне паштовай сувязі ў вёску прыехала паштальён, і мясцовы раз'юшаны мярзотнік у стылі Раскольнікава напаў на яе і параніў, уцёк з акрываўленага месца. Вадзіцель стаў сведкам гэтага здарэння, пра што адразу ж паведаміў у райаддзел міліцыі, а сваю параненую калегу тэрміново павёз у райбальніцу, дзе пацярпелай наклалі некалькі швоў. Аператыўнікі дзейнічалі прафесійна, і неўзабаве ў выніку адладжаных дзеянняў выйшлі на след злачынцы і яго затрымалі. Для дапамогі сваім калегам у правядзенні неабходных дзеянняў па збору доказаў віны і правядзенні экспертных дасследванняў у раён аператыўна прыбыла і група спецыялістаў следчага ўпраўлення УСК па Віцебскай вобласці.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 28.01.16 | | | | Пятніца 29.01.16 | | | | Субота 30.01.16 | | | | Нядзеля 31.01.16 | | | | Пан. 01.02. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +1 | +5 | +5 | +3 | +1 | -1 | +1 | 0 | +1 | +4 | +4 | +4 | +3 | 0 | 0 | 0 | -1 | -2 | 0 |
| Ціск | 739 | 737 | 737 | 739 | 743 | 746 | 747 | 746 | 744 | 744 | 742 | 741 | 738 | 735 | 731 | 729 | 734 | 738 | 740 |
| Вецер м/сек | 6 Ю-З | 7 Ю-З | 6 З | 8 З | 6 З | 6 З | 6 З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 6 Ю-З | 9 Ю-З | 8 Ю-З | 6 Ю-З | 1 З | 1 В | 5 С | 5 С-З | 7 С-З | 3 З |
| Вільготнасць | 89 | 88 | 76 | 81 | 80 | 81 | 70 | 80 | 85 | 85 | 82 | 83 | 84 | 88 | 83 | 84 | 80 | 77 | 67 |

# Аб самым надзённым

## ПРАЗМЕРНАЕ ЎМЯШАННЕ ЧЫНОЎНІКАЎ У БЕЛАРУСКУЮ ЭКАНОМІКУ ТОЛЬКІ ШКОДЗІЦЬ УСЁЙ КРАІНЕ І ЯЕ ГРАМАДЗЯНАМ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сёлета многія яшчэ больш збяднеюць з-за няпростай сітуацыі ў эканоміцы і непазбежнага росту беспрацоўя. Асабліва ў глыбінцы цяпер страшна страціць працу, калі няма запасаў на "чорны дзень", то такіх гаротнікаў чакае жабрацкае існаванне.**

З першых дзён новага года большасці суайчыннікаў стала зразумела, што летась Беларусь пражыла вельмі няпросты год, а і далей, верагодна, будзе людзям яшчэ больш цяжка жыць. Нязменны кіраўнік дзяржавы зусім невыпадкова напрыканцы снежня падчас новых кадравых назначэнняў выказаўся, што ў 2016 годзе ўвогуле нашай краіне трэба выстаяць. Праўда, вакол нас сярод суседзяў абстаноўка чамусьці нармальная, расце эканоміка ў Прыбалтыцы і ў Польшчы. Іншыя справы ў суседняй "вялікай Расіі", якая занята гібрыднай вайной з "братняй" Украінай і сама ідзе на дно, уцягвае ў вір праблем і нас з украінцамі, казахамі, іншымі краінамі постсавецкай прасторы.

Тым, хто ў нас захапляецца пуцінскай палітыкай "мачыць" ворагаў "русского мира" нялішне будзе нагадаць, што летась на расійскіх прасторах, па афіцыйных дадзеных Расстата, бедных людзей стала болей яшчэ на 2,3 млн. чалавек. Усяго сярод расіян ужо амаль 21 млн. чалавек (14,1% насельніцтва) апынуліся за рысай беднасці, ледзь-ледзь зводзяць канцы з канцамі, па сутнасці недаядаюць і гаруюць. А яшчэ нядаўна перад сочынскай Алімпіядай, калі яшчэ не ўварваліся іх "зялёныя чалавечкі" у Крым, рускія зараблялі пад 900 долараў. Цяпер такія заробкі зменшыліся ў 2 разы, расійскі дзяржбюджэт і нацвалюта трашчаць па швах і, верагодна, ужо ў 1-м квартале Дзярждума РФ вымушана будзе перагледзіць галоўны фінансавы дакумент з-за падзення сусветных цэн на нафту.

А паколькі расійскі рынак асноўны для збыту большасці беларускіх тавараў, то невыпадкова і наша краіна таксама апынулася ў цяжкім становішчы. Летась і ў нас падалі рэальныя даходы людзей, заробкі ў доларавым эквіваленце зменшыліся з 600 да 380 USD, па ўзроўню даходаў мы апусціліся ў 2007 год. На жаль, і ў Беларусі расце і будзе расці колькасць тых, хто вымушаны будзе толькі выжываць у паўсядзённым жыцці. Сёлета многія яшчэ больш збяднеюць з-за няпростай сітуацыі ў эканоміцы і непазбежнага росту беспрацоўя. Асабліва ў глыбінцы цяпер страшна страціць працу, калі няма запасаў на "чорны дзень", то такіх гаротнікаў чакае жабрацкае існаванне.

Між тым, год толькі пачаўся, але для беларусаў ужо падаражэў праезд на міжгароднім транспарце. Міжволі прыйдзецца ўсім зацягнуць паясы, бо на 20% падаражэлі тарыфы на электраэнергію і газ, выраслі тарыфы і на шэраг платных медыцынскіх паслуг,найперш–стаматалагаў. Перад гэтым банкі ўявілі падаткі на дэпазіты, і ўсё болей афіцыйных размоў аб павышэнні пенсійнага ўзросту ў Беларусі. Што характэрна, некаторыя праблемы ствараюцца штучна, на голым месцы. З першых дзён студзеня ў краіне пачаў дзейнічаць прэзідэнцкі ўказ №222, і рынкі, гандлёвыя цэнтры і павільёны апусцелі.

Прыватных гандляроў на рынках чыноўнікі абавязалі мець дакументы аб якасці адзення і абутку, іншых тавараў лёгкай прамысловасці. Увядзенне новага тэхрэгламента праслаўтага Мытнага саюза некалькі разоў адкладвалася, а цяпер улады рашылі дзейнічаць, і пагроза апынуцца на вуліцы без працы навісла над 120 тысячамі чалавек, занятых гэтым дробным бізнасам. Беларускія ўлады, якія прывыклі кантраляваць усё і ўсіх, такім чынам спрабуюць, будзем называць рэчы сваімі імёнамі, выратаваць ад крызісу айчынную лёгкую прамысловасць, якая прайграе канкурэнцыю патокам больш таннага імпарту аналагічных тавараў.

Самае страшнае ў гэтай сітуацыі, што калі не будзе знойдзены кампраміс, то насельніцтва з-за забароны прадаваць тавары леграма без сертыфікатаў і масавага зыходу прадпрымальнікаў з рынкаў, ужо зусім хутка чакае рост цэн і калапс гэтага сегмента спажывецкага рынка. Праўда, многія беларусы з прыгранічча ў дзяржаўныя магазіны не пойдуць, а будуць ездзіць на рынкі суседніх краін, бо ў Расіі і Казахстане, не кажучы ўжо пра Украіну, дзяржава, у адрозненне ад Беларусі, так пільна ў рынкавыя працэсы не ўмешваецца. Калі ж частка гандляроў на нашых рынках пачне дзейнічаць па-новых правілах, то цэны на іх тавары ўзрастуць, а ранейшы асартымент тавараў можа зменшыцца.

Наша дзяржава, мяркуючы па ўсім, была падрыхтаваная да таго, што ў студзені многія прадпрымальнікі не будуць працаваць і, значыць, не будуць плаціць падаткі, а арэнда іх гандлёвых месц і дагэтуль была немаленькая. Цяпер цяжка загадваць, што будзе далей, але найбольш верагодна, што нічога ў нас не пераменіцца: да новых умоў усе неяк прыстасуюцца. Праўда, нічога добрага наступіўшы год большасці з нас не прынясе. Мы прадоўжым жыць у краіне, дзе не прынята нешта мяняць у раней узятым курсе на камандную і неэфектыўную эканоміку, якую чыноўнікі працягваюць з усіх сіл падтрымліваць за народныя грошы, за кошт фактычна кожнага з нас.

## Дзень за днём

**Беларусь не дамовілася з Расіяй аб зніжках на газ, гандаль з Украінай будзе без абмежаванняў. А. Лукашэнка аб'явіў новую вайну імпарту і не пайшоў насустрач прадпрымальнікам. Урад Беларусі адпусціў цэны на хлеб, мяса, малако, яйкі і іншыя сацыяльна значныя тавары і паслугі. Услед за расійскім рублём рэкордна саслабелі нацвалюты Беларусі і Казахстана. За два месяцы курс долара вырас на 2 тысячы рублёў. Падзенне аб'ёмаў беларускага экспарту працягваецца ўжо амаль паўгода. Беларусы сталі болей набываць замежную валюту, толькі ў снежні яны купілі 543,2 мільёна долараў**

# Важнейшыя навіны свету

**Кітай.** Разам са зніжэннем цаны нафты да 30 USD кітайскі фондавы рынак зноў упаў пасля леташняга абвалу летам яшчэ на 3%, узніклі праблемы і на рынках Азіі.

**Галандыя.** Глава МЗС Берт Кундэрс пацвердзіў, што ва Украіне можа быць створаны міжнародны трыбунал па пакаранню вінаватых у знішчэнні авіярэйса MH17.

**Расія.** Глава ўрада РФ Д. Мядзведзеў заклікаў расіян рыхтавацца да "горшага сцэнарыю" ў эканоміцы, у краіне і так летась рэзка на 10% вырасла колькасць бедных людзей.

**Інданезія.** Пасля тэрактаў у Парыжы і Стамбуле, атак на жанчын не толькі ў Германіі тэрарысты-ісламісты арганізавалі серыю выбухаў у сталіцы краіны Джакарце.

**Украіна.** Адзін з главароў сепаратыстаў "ДНР" А. Захарчанка пригразіў Кіеву ўзяць штурмам нават Харкаў з Днепрапятроўскам у выпадку зрыву перамір'я ў Данбасе.

**Германія.** Жаданне Пуціна памірыцца з Захадам у інтэрв'ю штотыднёвіку "Bild" выклікана цяжкім станам эканомікі РФ і тым, што знайсці падтрымку ў Азіі не выйшла.

**Сірыя.** Прэзідэнт РФ У. Пуцін пацвердзіў, што Расіі не будзе складана прадаставіць палітычны прытулак нелігетымнаму, па меркаванню многіх, главе краіны Б. Асаду.

**Расія.** Урад РФ вырашыў скараціць расходы дзяржбюджэту пакуль на 10%, з-за падзення цэн на нафту экспартныя даходы краіны ўжо зменшыліся на 25 мільярдаў долараў, 2% ВУП.

**Бельгія.** У сувязі з вынясеннем у Беларусі смяротнага прысуду ЕС заклікаў улады краіны ўвесці мараторый на пакаранне смерцю, з 406 такіх асуджаных памілавалі толькі аднаго.

**Азербайджан.** Цэнтрабанк краіны забараніў продаж замежнай валюты ў абменных пунктах, яе можна купіць толькі ў банках з-за вельмі высокага попыту і абвалу маната.

**Расія.** Расійскае МЗС абурылася параўнаннем дарадцы прэзідэнта Украіны Ю. Бірукова рускіх з "дробнымі і шкоднымі тараканамі" за ўдзел іх у баявых дзеяннях у Данбасе.

**Таджыкістан.** Улады краіны задумалі рэферэндум аб зняцці ўзроставага цэнзу з 35 да 30 гадоў для будучых кандыдатаў у прэзідэнты, а фактычна для сына лідара нацыі Рахмона.

**Англія.** Газета "Times" пацвердзіла, што расійскі банк ВТБ выплаціў раней 25 мільёнаў долараў ІААФ, каб замяць скандал з допінгам лёгкаатлетаў РФ, у курсе махінацый быў і Пуцін.

**Украіна.** Вядомы савецкі дыпламат Ю. Шчарбак заявіў, што з-за абвалу цэн на нафту ў 2017 годзе пачнецца распад Расіі, бо яна вядзе яшчэ бездказныя несправядлівыя войны.

**Кітай.** Беларуская федэрацыя баскетбола абурылася і звярнулася ў міжнародныя інстанцыі, калі іграка зборнай А. Леўчанку груба збілі на пляцоўцы на адным з матчаў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Экс-глава Нацбанка С. Багданкевіч папярэдзіў, што беларусаў чакае шокавая тэрапія, паколькі ва ўлады няма іншага выйсця, як прыняць умовы крэдытавання МВФ.

**Баранавічы.** У лік даўгоў на 1 млрд. за арэнду на "Баранавічыдрэве" судовыя выканаўцы арыштавалі маёмасць шведскага інвестара, хоць ён сюды ўжо ўклаў 70 мільярдаў.

**Мінск.** Лідар БКДП А. Ярашук заявіў, што сёлета ў Беларусі беспрацоўе можа вырасці да 0,5 млн. чалавек і дасягнуць 5,5-6% ад эканамічна актыўнага насельніцтва.

**Брэст.** Не з-за інфраструктурных праблем, як заявіў палітолаг А. Елісееў, улады не адкрываюць рух у прыгранічны з Польшчай і Літвой, а баяцца адтоку людзей на закупы.

**Дзяржынск.** Следства выявіла, што масавую гібель больш 29 тысяч куранят у мясцовым агракамбінаце выклікала адключэнне вентыляцыі, урон перавысіў 650 млн. рублёў.

**Гродна.** Упершыню суд за перавышэнне службовых паўнамоцтваў і здзекі над падазраваным пасадзіў за краты былых падпалкоўніка і маёра міліцыі на 4 і 6 гадоў.

**Гомель.** Двух машыністаў аўтамабільных кранаў, нязгодных з паніжэннем тарыфнай стаўкі на 20%, незаконна звольнілі з прадпрыемства "Гомельпрамбуд".

**Мінск.** Беларусь падобная цяпер, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, на анклаў замарожанага часу і сітуацыю, падобна на тое, не зменяць парламенцкія выбары-2016.

**Жодзіна.** Сумесна з в'етнамскімі спецыялістамі ў горадзе Кам Тхо пачалі выпускаць кар'ерныя самазвалы БелАЗ грузападымальнасцю 90 тон, магчымы выпуск 100 машын.

**Мінск.** Старшыня канфедэрацыі прадпрымальніцтва В. Маргелаў пацвердзіў, што на рынках РФ, Казахстана не патрабуюць сертыфікатаў якасці, якія хочуць увесці ў нас.

**Ашмяны.** Экс-начальніка мясцовай мытні І. Ніверкевіча суд Мінскай вобласці пакараў за атрыманне 238 мільёнаў рублёў хабару 7 гадамі турмы з канфіскацыяй нажытай маёмасці.

**Мінск.** Калі затрымкі зарплат ахопяць і градаўтваральныя прадпрыемствы, як заявіў палітолаг П. Быкоўскі, то ужо вясной сфарміруецца база для сацыяльнага пратэсту.

**Магілёў.** Былы гараджанін, раней судзімы за разбой Я. Конанаў, які ў Данецку даслужыўся да "падпалкоўніка ДНР" стаў чарговай ахвярай разборак сярод баевікоў.

**Валожын.** Моцны снежны буран абрушыў у вёсцы Войганы столь цагляната цялятніка ААТ "Багданаўскае", прыйшлося эвакуіраваць у іншае памяшканне 208 цялят

**Бабруйск.** Пасля моцных маразоў у горадзе прайшоў ледзяны дождж, падалі дрэвы, было пашкоджана 50 ліній ЛЭП, без святла засталіся 5 раёнаў, 43 фермы і 324 населеныя пункты.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Расіі рыхтуюць да прыняцця закон аб забароне наяўнага разліку паміж рэзідэнтамі РФ і замежнымі суб'ектамі прадпрымальніцтва




■Захар Шчарбакоў, БелаПАН

**У Расіі рыхтуюць да прыняцця закон, які забароніць аплачваць паслугі і праводзіць аперацыі куплі і продажу ў наяўнай валюце паміж рэзідэнтамі РФ і замежнымі суб'ектамі прадпрымальніцкай дзейнасці, паведаміў БелаПАН дырэктар аналітычнага цэнтра Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Анатоль Змітровіч.**

Згодна з інфармацыяй яго крыніц, праект закона расійскі ўрад ужо перадаў на разгляд у Дзярждуму. З'яўленню гэтага законапраекта, паводле слоў Змітровіча, шмат у чым паспрыялі беларускія і расійскія імпарцёры.

Ён удакладніў, што абмежаванне на наяўныя разлікі дзейнічае ў Расіі і цяпер, але за выкананнем гэтай нормы «не так уважліва сочаць». «Ёсць патрабаванне, каб разлікі праводзіліся безнаяўнымі грашыма толькі ў тым выпадку, калі яны перавышаюць пэўную суму», – растлумачыў Змітровіч. Новы ж закон, паводле яго слоў, фактычна ўсталюе поўную забарону на гандлёвыя аперацыі з выкарыстаннем наяўных сродкаў паміж рэзідэнтамі і нерэзідэнтамі РФ.

Згодна з прагнозамі дырэктара аналітычнага цэнтра, прыблізна 90% беларускіх прадпрымальнікаў не змогуць яго выконваць, бо працэдура правядзення безнаяўных аперацый залішне бюракратызавана. Больш за тое, «расійскія аптовыя арганізацыі вельмі неакуратныя ў афармленні першасных дакументаў», дадаў Змітровіч, што часта ствварае прадпрымальнікам мноства праблем пры транспарціроўцы і наступнай рэалізацыі тавараў.

Акрамя таго, лічыць ён, пры безнаяўных разліках беларускія ІП могуць у поўнай меры сутыкнуцца з нядобрасумленнасцю расійскіх пастаўшчыкоў. «Напрыклад, прадпрымальнік праз інтэрнэт выбраў у расійскага пастаўшчыка пэўныя мадэлі абутку, аплаціў куплю па безнаяўным разліку. Потым ён прыехаў у Маскву, а такога тавару ў пастаўшчыка няма. Прадпрымальніку застаецца або пакідаць пастаўшчыку грошы, або браць іншы тавар. У Расіі гэтым часта карыстаюцца, каб збыць неліквід, пазбавіцца ад рэшткаў», – растлумачыў Змітровіч.

Паводле яго звестак, расійскі законапраект прадугледжвае суровыя штрафныя санкцыі ў дачыненні да рэзідэнтаў РФ, якія ўсё ж надумаюцца працаваць з замежнымі суб'ектамі прадпрымальніцкай дзейнасці. А расійскія праваахоўныя органы, мяркуе Змітровіч, напэўна пачнуць правяраць у беларускіх прадпрымальнікаў факт безнаяўнай аплаты тавараў: «Калі ў цябе яго няма, значыць, ты тавар вязеш нелегальна».

«Такім чынам, імпарцёры вырашылі забіць апошні цвік у вечка труны беларускіх прадпрымальнікаў – пазбавіць іх магчымасці плаціць за тавары наяўнымі грашыма», – падсумаваў Змітровіч.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** На тэрыторыі вобласці азімыя зернявыя і рапс на плошчы 230 тысяч гектараў нядрэнна перанеслі маразы пад снегам і нармальна перазімуюць да вясны.

**Орша.** Абласны бюджэт прыняў на сябе пагашэнне даўгоў мясцовага мясакамбіната перад Белаграпрамбанкам у суме 83,2 мільярда рублёў на працягу 7 гадоў, каб ён мог працаваць.

**Браслаў.** Мясцовы РАУС распачаў крымінальную справу супраць дырэктара адной з гаспадарак раёна за допуск работніка да працы на трактары пасля пазбаўлення правоў.

**Глыбокае.** Былы супрацоўнік АБЭЗ райаддзела міліцыі апратэставаў прыгавор суда – 3 гады калоніі за злоўжыванне службовым становішчам, справу разгледзяць у вобласці.

**Віцебск.** За серыю разбойных нападзенняў і стральбу па міліцыянерах суд пакараў 25-гадовага мужчыну з Калодзішчаў, што пад Мінскам, 25 гадамі пазбаўлення волі.

**Полацк**. Некалькі сем'яў гараджан абурыліся, калі гаркамунгас знёс ля іх індывідуальных дамоў свае платы, устаноўленыя да "Дажынак", але за імі людзі дрэнна даглядалі.

**Віцебск.** Юбілейны XXV фестываль мастацтваў "Славянскі базар" пройдзе ў горадзе ў другой палове ліпеня, на ім адзначаць юбілей славутага музыканта У. Мулявіна.

**Мёры.** Следства па справе забітага летась летам у аграгарадку Цвеціна 57-гадовага егера выявіла, што яго застрэлілі за тое, што ён паведаміў пра злодзеяў міліцыі.

**Бягомль.** У дапаможнай школе-інтэрнаце прайшоў III абласны фестываль тэатральнага мастацтва "Зазеркалье-2016" для дзяцей з асаблівасцю развіцця з удзелам пасла Італіі.

**Сянно.** У райцэнтры за дзень выпала найбольш снегу па Беларусі – адразу 20 мм, для расчысткі вуліц і дарог, аднаўлення нармальнага руху ў раёне правялі суботнік.

**Гарадок.** Пасля месячнага карантыну ў вальеры ТАА "Алавія" выпусцілі 120 еўрапейскіх аленяў, набытых у фермера з Літвы для вырошчвання і рэалізацыі лягсасам РБ і замежжа.

**Наваполацк.** У сваім дачным доме ля горада з-за неасцярожнасці пры распальванні печкі-буржуйкі трагічна загінуў 76-гадовы пенсіянер, які атрымаў моцныя апёкі цела.

**Глыбокае.** Да 3-х гадоў турмы пагражае за махлярства 26-гадовай жанчыне, каб атрымаць тэрмінова грошы, яна падманула калег, што "памёр" яе жывы і здаровы бацька.

**Віцебск.** Падчас моцнага снегападу ў горадзе выпала за дзень дэкадная норма снегу, узнікла шмат пробак і снежных затораў, на шэрагу вуліц сталі буксаваць аўтобусы.

**Паставы.** Адразу трое выхаванцаў футбольнай акадэміі ПМЦ М. Бабічаў, К. Сідарэнка і А. Александровіч падпісалі кантракты, залічаны ў асноўны склад ФК "Віцебск".

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентств і інтэрнэтрэсурсаў).*

## 21 студзеня 2016 года прайшоў Адзіны дзень здароўя

# “Прафілактыка грыпу і ВРІ”

■ Л.І.Катовіч,
*памочнік урача-эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ.*

**Грып і вострыя распіраторныя інфекцыі (далей ВРІ) працягваюць заставацца самымі масавымі інфекцыйнымі захворваннямі. Грып з’яўляецца адзінай інфекцыяй, якая выклікае штогадовыя эпідэміі і перыядычныя пандэміі.**

У Рэспубліцы Беларусь штогод захворваюць грыпам і ВРІ каля 3 млн. чалавек. У Глыбоцкім раёне штогод захворвае звыш 6 тысяч чалавек вострымі распіраторнымі інфекцыямі, больш 50% сярод захварэлых складаюць дзеці да 17 гадоў.

У Рэспубліцы Беларусь створана сістэма мерапрыемстваў, якія прадугледжваюць комплексную абарону насельніцтва ад грыпу. Комплексны характар абароны насельніцтва ад грыпу мяркуе, у першую чаргу, спецыфічную прафілактыку з выкарыстаннем вакцын, прафілактыку з выкарыстаннем лекавых прэпаратаў, правядзенне супрацьэпідэмічных мерапрыемстваў у ачагах інфекцыі, а таксама правядзенне аздараўленчых і агульнаўмацавальных мерапрыемстваў.

Найболей эфектыўным і эканамічным метадам прафілактыкі грыпу з’яўляецца вакцынацыя. Яе перавагі відавочныя: першым чынам, гэта строгая спецыфічнасць вакцын да найболей актуальных у сезоне штамах віруса грыпу; вакцынацыя больш чым у два разы перавышае эфектыўнасць неспецыфічных сродкаў прафілактыкі. Сучасныя вакцыны абараняюць не толькі супраць грыпу, але і павялічваюць супраціўляльнасць арганізму да іншых вострых распіраторных інфекцый. Уздым захворвання грыпам і ВРІ ужо шмат гадоў запар пачынаецца ў канцы студзеня, у сувязі з гэтым, найбольш аптымальны тэрмін правядзення вакцынацыі – з другой паловы верасня да пачатку снежня. Праз 14-21 дзень пасля вакцынацыі развіваецца імунітэт, які забяспечвае абарону арганізму на працягу 6 - 12 месяцаў.

У **Глыбоцкім раёне**, з мэтай папярэджання захворвання грыпам, з верасня па лістапад 2015года была праведзена кампанія па вакцынацыі насельніцтва супраць грыпу. Усяго прышчэплена 15 343 чалавек (з іх дзяцей – 2572), што складае 40,27% насельніцтва раёна, з іх за кошт рэспубліканскага бюджэту прышчэплена 4980 чалавек, абласнога бюджэту – 7 295 чалавек, фінансавых сродкаў прадпрыемстваў і арганізацый – 3 048 чалавек, асабістых сродкаў грамадзян – 20.

Для таго, каб папярэдзіць захворванні грыпам і ВРІ неабходна выконваць наступныя рэкамендацыі:

- Уключайце ў свой рацыён вітаміны, асабліва вітамін С, садавіну і гародніну, цыбулю, часнок, мёд.
- Выконвайце рэжым працы і адпачынку. Больш бывайце на свежым паветры, замест перапоўненага грамадскага транспарта на працу і з працы хадзіце пешшу, апранайцеся па надвор’і.
- Пазбягайце блізкага кантакту з хворымі людзьмі.
- Выконвайце гігіену рук. Рэгулярна мыйце іх з мылам, імкніцеся не датыкацца рукамі да рота, носа, вачэй.
- Як мага радзей наведвайце шматлюдныя месцы (рынкі, крамы).
- Рэгулярна праветрывайце памяшканні і праводзьце ў іх вільготную ўборку.
- Пры наяўнасці хворага ў сям’і важна прытрымлівацца наступных правіл: выдзеліць для хворага асобны пакой, калі гэта зрабіць немагчыма, то неабходна адгарадзіць ложак хворага запавесай ці шырмай, выдзеліць яму асобны посуд, ручнік, часцей праводзіць вільготную ўборку і праветрыванне пакоя, у якім знаходзіцца хворы, пры доглядзе за ім выкарыстоўваць маскі.

Калі Вы захварэлі, то не пераносьце інфекцыю “на нагах” і не займайцеся самалячэннем, а звярніцеся да ўрача. Прыслухайцеся да рэкамендацый і будзьце здаровыя!



# У Беларусі ўведзены новыя тарыфы на электраэнергію і газ для арганізацый

У Беларусі праіндэксавалі тарыфы на электраэнергію, што адпускаецца прадпрыемствамі “Белэнерга” для катэгорый арганізацый, устанаўліваемыя на ўзроўні тарыфаў на электрычную энергію для насельніцтва. Адпаведная пастанова Міністэрства эканомікі ад 11 студзеня нумар 1 была апублікавана сёння на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале, паведамляе БелТА. Кошт электрычнай энергіі (за выключэннем энергіі для патрэб ацяплення і гарачага водазабеспячэння з далучанай магутнасцю абсталявання больш як 5 кВт) для арганізацый аховы здароўя, рэлігійных арганізацый, садоўніцкіх таварыстваў і дачных кааператываў складзе Br1188 за 1 кВт.гадз. Такая ж цана ўстаноўлена і для стацыянарных устаноў сацыяльнага абслугоўвання (дамоў-інтэрнатаў рознага тыпу, спецыяльных дамоў для ветэранаў і састарэлых, дзіцячых вёсак), а таксама для арганізацый у частцы выкарыстання электрычнай энергіі на асвятленне прыдамавых тэрыторый, падвалаў, дапаможных памяшканняў жылых дамоў, у тым ліку інтэрнатаў. Для арганізацый, якія маюць на сваім балансе высакавольтныя і нізкавольтныя электрычныя сеткі або трансфарматарныя падстанцыі і забяспечваюць электразабеспячэнне насельніцтва ў пасёлках гарадскога тыпу, сельскіх населеных пунктах, у жылых зонах населеных пунктаў, цана 1 кВт.гадз стане Br1132,4. Гаражным кааператывам і кааператывам, якія ажыццяўляюць эксплуатацыю аўтамабільных стаянак, трэба будзе плаціць Br1900 за 1 кВт.гадз. Столькі ж павінны будуць заплаціць і арганізацыі, што ажыццяўляюць эксплуатацыю жыллёвага фонду і (або) прадастаўляюць жыллёва-камунальныя паслугі, арганізацыі забудоўшчыкаў, таварыствы ўласнікаў, а таксама арганізацыі, маючыя ва ўласнасці, на праве гаспадарчага ведання або аператыўнага кіравання жылыя памяшканні. Таксама праіндэксаваны цэны на прыродны газ за 1 куб.м з ПДВ, што адпускаецца “Белпалівагазам” арганізацыям, маючым інтэрнаты, у частцы выкарыстання прыроднага газу пражываючымі ў іх грамадзянамі, рэлігійным арганізацыям, дзіцячым дамам сямейнага тыпу, дзіцячым вёскам (гарадкам). Пры наяўнасці індывідуальных газавых абагравальных прыбораў кошт у абагравальны перыяд 1 куб.м складзе Br776,3, у летні перыяд - Br2842,2; пры адсутнасці індывідуальных газавых абагравальных прыбораў - Br2842,2.

*БелТА.*



# БелТА піша пра масавыя затрымкі з выплатай заробкаў

**Пытанні запазычанасці па выплаце заробкаў пераважалі сёння на прамой лініі намесніка старшыні Віцебскага аблвыканкама Уладзіміра Белавусава, перадае БелТА.**

Работнік фермы ў **Докшыцкім раёне** распавёў, што жыве без зарплаты ўжо з кастрычніка. Акрамя таго, ён абураўся, што на ферме няма элементарных умоў ні для работнікаў, ні для жывёл.

**Жыхарка Оршы** таксама скардзілася, што фірма па зборы малака ад насельніцтва не выплачвае ёй зарплату, спасылаючыся на тое, што малаказавод не плаціць грошай за прынятую прадукцыю.

Маладая мама з **Пастаўскага раёна** распавяла, што завод не выплаціў дзіцячую дапамогу, прычым не ёй адной.

**Жыхарка Мёрскага раёна** працуе на ферме, выхоўвае траіх дзяцей і з кастрычніка не атрымлівае зарплату.

Усе пытанні ўзятыя на кантроль, паведамляе ***БелТА.***

■ Уладзімір Скрабатун

# А што, магло б быць інакш?

Пасля сканчэння выступу ўсіх выканаўцаў на беларускім адборачным конкурсе “Еўрабачанне-2016” абвясцілі СМС-галасаванне… СМСкі, аўтар гэтых радкоў, навучыўся пісаць даўно, бо некаторыя з рэкламадаўцаў шматкроць прасяць выслаць адрас электроннай пошты газеты. Адсылаў СМСкі і з-за мяжы – яны, як не дзіўна, даходзілі!

Нездарма на гэта звяртаю ўвагу! Бо, набіраю нумар удзельніка – а гэта быў NAVI – і нумар на які трэба адаслаць СМСку, адсылаю, і – атрымліваю адказ: “*Ваш голос не может быть принят. Неверно указан номер участника*”. “Маць вашу за нагу!” Як жа ж так! Нечакана развучыўся адсылаць СМСкі?

І тут у сям’і пачаўся такі вэрхал!!! Мама, не сумуй! Здурнілі дзеда (г.зн. аўтара) ўнучка і жонка! Мабільнік вырываюць з рук! – Не можаш, не ўмееш? – Дай, мы самі адправім! Урэшцерэшт – мабільнік апынуўся ў руках унучкі. І што? “*Ваш голос не может быть принят. Неверно указан номер участника*”.

Колькі ж мне каштавала высілкаў вярнуць мабільнік! І толькі з сёмай спробы мой адпраўлены голас быў улічаны! Ужо тады, у аўтара гэтых радкоў, узнікла думка: “Штосьці не так! Блакуюць?” Вы ж, звярніце ўвагу, шэсць разоў СМСка дайшла да адрасата! Дайшла!!! А яны аўтаматам – “*Ваш голос не может быть принят. Неверно указан номер участника*”. Гэта значыць – атрымалі, і, “аўтаматам” – адфутболілі”! За каго яны нас трымаюць?

Не буду даваць уласную адзнаку канчатковым вынікам галасавання… Папершае, яе могуць палічыць “афіцыйным” меркаваннем газеты. Таму, лепш прывесці меркаванні іншых людзей, якія, перадусім, не знаёмыя паміж сабой і жывуць у розных кутках Беларусі. Падругое – галасаваў я за NAVI выключна з-за глыбоцкай салідарнасці, бо класны кіраўнік маёй унучкі – маці заснавальніка NAVI. Гэта значыць – мой голас можа быць суб’ектыўным.

Між тым, пасля 00:00 гадзіны ночы, шмат якія сайты аператыўна адгукнуліся на падзею! Незадаволеных вынікамі СМС-галасавання і выбарам пераможцы – Айвана – пачалі пісаць каментары. Працытую толькі некаторыя самыя красамоўныя з сайта nn.by (з захаваннем стылістыкі і арфаграфіі):

**Алена К.**

*Які жах...*

**Стомлены эрбэхерыяй.**

*Сенсацыя! Я думаў зноў пераможа Рыгоравіч.*

**Юля.**

*Жах!!! І толькі!*

**Аматар портэра:**

*Ну як такое можа быць? Гэны Іван меў адставанне ад Напалі на 3000 балаў, а потым рэзка апярэдзіў... Калі ў нас ужо сапраўды адбудуцца чэсныя выбары. Колькі ўжо падлізваць будзем?*

**Мікалай:**

*Сябры! Я некалькі разоў пасылаў SMS у падтрымку NAVI і правільна ўсё ўказваў, аднак мне прыходзіў адзін адказ: “Ваш голос не может быть принят. Неверно указан номер участника”. Няўжо зноў фальсіфікацыя ў масштабах усёй краіны?!*

**lol:**

*И почему я не сомневался в результате?..*

**leikobel:**

*А што раней было паіншаму?*

**Владимир:**

*Мрак.*

**Юлия:**

*Смс за участников под #05 не отправлялись, обман.*

**Іншы мінак:**

*Званіў 5 разоў за NAVI. У мяне на мабільніку - 11 000. Хто верне мне грошы ?*

**Вп:**

*Ладно бы песня была прорывная, она отстает на лет 10 по своему уровню.*

**Галя:**

*Мікалай, сапраўды так і было...і я ,і сыны,і муж усе адсылалі са сваіх нумароў за Наві і атрымоўвалі такі ж самы адказ....Падтасоўка!*

Годзе! Пра гэта можна было б і не згадваць! У кожнага быў свой выбар. Аднак, пачытаем і загалоўкі розных навінаў, якія наўпрост звязаныя з гэтай падзеяй.

**На расійскім Муз-ТВ Айвана назвалі беларускім удзельнікам Еўрабачання яшчэ месяц назад.**

*У відэа, апублікаваным 20 снежня2015 г, Айвана ўжо называюць пераможцам беларускага адбору на Еўрабачанне.*

**БТ вывела на «Еўрабачанне» праект ардэнаносца Дробыша.**

*Паводле вынікаў «галасавання», першае месца аддалі Аляксандру Іванову. Яго сцэнічнае імя — Ivan, трэба чытаць «Айван».*

*Такім, чынам…*

*На «Еўрабачанне» едзе праект прадзюсара Віктара Дробыша, які нядаўна атрымаў ордэн Скарыны ад Аляксандра Лукашэнкі.*

Выказаўся і Павел Якубовіч, рэдактар “СБ–Беларусь Сегодня”

**Павел Якубовіч: Вынікам адбору «Еўрабачання» я не рады, я перажываў за Navi.**

Сапраўды, як кажуць, ёсць што сказаць – няма каму слухаць!



# Ён здзейсніў свой жыццёвы і навуковы подзвіг

## (Да 80-годдзя з дня нараджэння Генадзя Каханоўскага)

**Споўнілася 80 гадоў з дня нараджэння таленавітага беларускага гісторыка, археолага, фалькларыста, літаратуразнаўца і краязнаўца Генадзя Аляксандравіча Каханоўскага.**



**Кліменцій Кожан,** *краязнаўца, м. Германавічы.*

Нарадзіўся ён 8 студзеня 1936 года ў вёсцы Дамашы Маладзечанскага раёна. Юначыя гады правёў у Маскве, дзе ўзначальваў беларускае студэнцкае зямляцтва, сустракаўся там з Уладзімірам Дубоўкам і Міколам Улашчыкам. У 1963 годзе Генадзь Каханоўскі скончыў Маскоўскі педагагічны інстытут.

Па заканчэнні вучобы вярнуўся ў Маладзечна, дзе з 1964 года працаваў у абласным краязнаўчым музеі. Тут ён стварыў экспазіцыю, за якую яго абвінавацілі ў нацыяналізме. У 1969 годзе атэстацыйная камісія прызнала працу маладога гісторыка-патрыёта шкоднай для камуністычнага выхавання савецкіх людзей. Звольненага Генадзя Каханоўскага аднавілі на працы, дзякуючы заступніцтву Максіма Танка і Янкі Брыля, але нападкі на вучонага не спыняліся. Нягледзячы на перашкоды з боку ўладаў, Генадзь Каханоўскі стаў спачатку намеснікам, а потым дырэктарам Мінскага абласнога краязнаўчага музея ў Маладзечне.

У 1979 годзе Г.Каханоўскі стаў кандыдатам гістарычных навук. З 1981 года ён стаў старшым навуковым супрацоўнікам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі. У 1991-1994 гадах старшы навуковы супрацоўнік, загадчык аддзела Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны.

У 1989 годзе спрычыніўся да заснавання Беларускага краязнаўчага таварыства і стаў яго першым старшынёй. У 1992 годзе абараніў першую ў Беларусі доктарскую дысертацыю па крыніцазнаўстве матэрыяльнай і духоўнай культуры нашага народа.



**Генадзь Каханоўскі.** *Партрэт работы Юрыя Герасіменкі-Жызнеўскага.*

Генадзь Каханоўскі даследаваў развіццё археалогіі, музейнай справы, краязнаўства, пытанні аховы помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Яго цікавіла ўсё, што тычылася роднай Маладзечаншчыны і Беларусі ў цэлым: нумізматыка, кераміка, геральдыка, драўляная скульптура, легенды і паданні, успаміны старых людзей, рукапісы, даўнія дакументы і многае іншае.

Ён пастаянна жыў у Маладзечне ў сваім доме. Дзевяць гадоў ён ад'ездзіў электрычкай у Мінск на працу ў Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Сабраныя ў архівах і бібліятэках матэрыялы апрацоўваў на каленях у электрычцы. За 9 год наездзіў 360000км.

Генадзя Каханоўскага добра ведаў Іван Саламевіч, выдатны беларускі энцыклапедыст. Ён больш за 35 гадоў сябраваў з Г.Каханоўскім, перапісваўся з ім. У артыкуле "Унікальны светлы талент" Іван Саламевіч пісаў: "Яго ўсе любілі. Гэтага высокаадукаванага, сціплага, інтэлігентнага, сумленнага, вельмі душэўнага чалавека. Мае калегі-жанчыны заўсёды падкрэслівалі, што цяпер, на жаль, мала такіх далікатных людзей, такіх аўтараў, якія згодны, калі трэба, дапрацоўваць матэрыял бясконца, дапаўняць, удакладняць, удасканальваць... Ведаючы, што я ўвесь час дапрацоўваю свой слоўнік псеўданімаў, ён часта прыносіў "гасцінцы" – расшыфраваныя псеўданімы і крыптанімы нашых навукоўцаў, пісьменнікаў, публіцыстаў, журналістаў, прычым часта расшыфраваныя на падставе архіўных знаходак або інфармацыі саміх аўтараў...

"Янка, - любіў ён гаварыць, калі даведваўся, што я раблю нешта, як ён лічыў, пабочнае, - кідай ты ўсё гэта часовае і працуй толькі над сваім слоўнікам, акрамя цябе гэтага пакуль ніхто не зробіць, а пасля цябе толькі гэта і застанецца". І падаваў нейкі невядомы псеўданім."

Новае выданне "Слоўніка беларускіх псеўданімаў і крыптанімаў" Іван Саламевіч прысвяціў светлай памяці Генадзя Каханоўскага – сябра, якога ён шчыра любіў, "таленавітага вучонага, шчырага рупліўца на роднай беларускай ніве".

Генадзь Каханоўскі добра ведаў не толькі беларускія архівы, але і архівы іншых гарадоў Савецкага Саюза, напрыклад, архівы Жытоміра, Архангельска, Арэнбурга, Петразаводска, Табольска, Казані і іншыя.

Г.Каханоўскі пакінуў багатую спадчыну. Ён глыбока прааналізаваў уклад у навуку З. Даленгі-Ходакоўскага, Т.Нарбута, Я. і К. Тышкевічаў, А. Кіркора, У.Сыракомлі і іншых, а таксама такіх устаноў, як Віленскі музей старажытнасцяў, Віленская Археалагічная камісія, прыватнаўласніцкія музеі М.П.Румянцава ў Гомелі, Г.К.Яблонаўскай у маёнтку Сямятычы Гродзенскай губерні і іншыя.

Вялікае значэнне для гісторыкаў і краязнаўцаў мае манаграфія Г. Каханоўскага "Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI-XIX ст. (1984)

Манаграфія Г.Каханоўскага "Беларуская фалькларыстыка і эпоха феадалізму" (1989) – грунтоўны ўклад вучонага ў гісторыю збірання і даследавання беларускай вусна-паэтычнай творчасці XVI-XIXст.

Іван Саламевіч пісаў, што Генадзь Каханоўскі "як вопытны музейшчык выдатна ведаў, што такое краязнаўчая работа, высока цаніў працу мясцовых падзвіжнікаў, якія, як і ён, рупіліся і рупяцца, каб зберагчы мясцовыя помнікі і помнікі гісторыі і культуры, што адыгрываюць неацэнную ролю ў патрыятычным выхаванні, у самавыхаванні любові да роднага краю, роднай гісторыі. Таму так нястомна, упарта стараўся ён, каб аднавіць, арганізаваць Рэспубліканскае краязнаўчае таварыства. Вельмі многа нерваў патрацію, хваляванняў перажыў Генадзь, калі не ўдавалася прабіць глухую сцяну чыноўніцкага непаразумення...

У 1989 годзе Генадзь Каханоўскі стаў старшынёй беларускага краязнаўчага таварыства. На жаль, не здзейснілася яго мара адрадзіць часопіс "Наш край", які выходзіў з 1925 года як орган цэнтральнага бюро краязнаўчага таварыства.

Каб нашы людзі ведалі сваю мінуўшчыну, шанавалі сваіх слаўных сыноў і дачок, свае святыні і помнікі, Генадзь Каханоўскі паклаў шмат сіл і стараннняў. Таму столькі высілкаў прыклаў ён, каб знайсці тую мясціну, дзе летам 1911 года адпачываў Максім Багдановіч. Ёю аказалася Ракуцёўшчына. Генадзь адкрыў яе ў 1965-1966гг. Па яго ініцыятыве ў чэрвені 1977 года тут устаноўлены мемарыяльны знак са словамі: "У вёсцы Ракуцёўшчына ў 1911 годзе жыў і працаваў вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч".

24 чэрвеня 1981 года беларускія пісьменнікі заклалі тут "Максімаў сад", а ў 1985 годзе каля крыніцы пастаўлены камень. На святах паэзіі ў Ракуцёўшчыне з удзячнасцю ўспамінаецца імя Генадзя Каханоўскага.

Дзякуючы яго клопатам, у Маладзечне імёны нашых пісьменнікаў, грамадскіх і культурных дзеячаў былі нададзены вуліцам замест тых, хто да горада не меў ніякіх адносін.

У Радашковічах адкрыты мемарыяльны знак у памяць Ядвігіна Ш., у Люцінцы, дзе жыў В. Дунін-Марцінкевіч.

Г.Каханоўскі апублікаваў больш за 500 артыкулаў у розных энцыклапедыях. "Кожны, хто пісаў для энцыклапедыі, ведае, што для таго, каб напісаць туды нават маленькі артыкульчык, трэба шмат ведаць, пераварнуць горы літаратуры, архіўных дакументаў, сто разоў праверыць і пераправерыць розныя думкі, факты, меркаванні. Г.Каханоўскі рабіў гэта настойліва, бясстрашна, не шкадуючы сябе. Ведаў – гэта трэба для любай Беларусі", - пісаў Іван Саламевіч.

Г.Каханоўскі быў чалавекам энцыклапедычных ведаў. На любое самае складанае пытанне ён ведаў глыбокі адказ ці раіў, дзе можна яго знайсці.

Я добра ведаў Генадзя Каханоўскага, сустракаўся з ім у архівах і бібліятэках Мінска. Ён дапамагаў мне ў зборы матэрыялаў па гісторыі Шаркоўшчынскага раёна. Г.Каханоўскі выдатна ведаў архівы Мінска і Вільні, падказваў, у якіх архіўных фондах можна знайсці той ці іншы матэрыял. Апошні раз бачыў Генадзя ў 1993 годзе, на І з'ездзе беларусаў свету. Ён адчуваў сябе дрэнна. Расказваў пра свае хваробы, што перанёс некалькі аперацый на страўніку. Гаварыў, што хацеў бы пабываць у Германавіцкім музеі мастацтва і этнаграфіі, наведаць Браслаў, Мёры, старажытную Дзісну, магчыма, дабрацца да возера Ельня, назбіраць там журавінаў. Ён пабыў невялікі час на з'ездзе, потым паехаў дадому ў Маладзечна.

Г.Каханоўскі – аўтар літаратурна-краязнаўчых нарысаў пра Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Яна Баршчэўскага, Адама Гурыновіча, Фелікса Тапчэўскага, Міхася Чарота, гістарычна-эканамічных нарысаў "Вілейка" (1974), "Маладзечна" (1988) і іншых. Ён адзін з аўтараў помніка "Дарозе" ў вёсцы Мясата на Маладзечаншчыне.

Памёр Г. Каханоўскі 10 студзеня 1994 года ва ўзросце 58 гадоў.

У заключэнне хачу прывесці словы Івана Саламевіча пра Генадзя Каханоўскага: "Яго любілі ўсе. Было за што. Чэсць і слава Яму, слаўнаму, адданаму сыну нашага народа, рупліўцу, беззапаветнаму шчыруну на полі роднай культуры, гісторыі, літаратуры, краязнаўства, музейнай справы, фальклярыстыкі і безлічы іншых дзялянак! І як балюча і горка, што ён так рана згарэў! Няхай светлы воблік незабыўнага Генадзя Каханоўскага натхняе нас на працу ў імя і гонар нашай бацькаўшчыны, якую ён так горача любіў, у імя якой здзейсніў свой жыццёвы, свой навуковы подзвіг як патрыёт, шчыры беларус, грамадзянін!"

# Аб карысці лазні

**Лазня лечыць хваробы, дае бадзёрасць, дадае моцы, пры знаходжанні ў лазні ўзмацняецца кровазварот, пашыраюцца сасуды, павялічваецца частата сардэчных скарачэнняў. Узмоцненая праца лёгкіх і сэрца пад уздзеяннем лазневай працэдуры з'яўляецца трэніроўкай для гэтых органаў і развівае каштоўную фізічную якасць – вынослівасць.**

■ **Т. Кадушкевіч,** *загадчык лабараторным аддзелам*



Пры інтэнсіўным потааддзяленні павялічваецца вылучэнне вуглякіслага газу, падвышаецца спажыванне кіслароду. Актыўная дзейнасць сальных і потавых залоз стымулюе вывад з арганізма неспрыяльных прадуктаў абмену рэчываў, цудоўна ачышчае скуру. Лазня здымае нервовае напружанне, паляпшае газавы, бялковы і мінеральны абмен. Пры рэгулярным наведванні лазні значна павышаецца ўстойлівасць да прастудных захворванняў. Жар стымулюе імунную сістэму і дапамагае змагацца з інфекцыяй.

Максімальны тэрмін знаходжання ў лазні – 3–4 гадзіны. На працягу гэтага часу ў парную заходзіць трэба не больш за чатыры разы (на 7–10 хвілін). Прывыкаць да спякоты трэба паступова. Папаўняць страту вадкасці пры дапамозе травяной гарбаты, мінеральнай вады, квасу. Пачаткоўцам-парыльшчыкам пажадана ведаць аб правільных дзеяннях.

Перад уваходжаннем у парную не варта мачыць галаву, так як сухія валасы абараняюць яе ад перагрэву. Надзець на галаву фетравую ці ваўняную шапачку.

Не мыйцеся з мылам перад тым, як парыцца, каб не выдаліць тлушч са скуры, ён засцерагае яе ад апалення.

Пажаданы якасны бярозавы венік. Лісце бярозы напаўняюць парную прыемным водарам, супакойваюць нервы, здымаюць боль, добра паглынаюць пот.

Пасля парной некаторыя абліваюцца халодная вадой або прымаюць халодны душ. Гэта эфектыўны гартуючы сродак. Аднак важная паступовасць. Пачаткоўцам трэба абмежавацца спачатку вадой пакаёвай тэмпературы. У далейшым паніжаць тэмпературу паступова. У прахалоднай вады дастатковая кантраснасць з тэмпературай парной, што дае эфект загартоўвання.

Наведваць лазню нельга нашча або пасля прыняцця вялікай колькасці ежы.

Парыцца можна не ўсім. Супрацьпаказана наведванне лазні пры некаторых захворваннях (сухоты лёгкіх, скурныя хваробы, пасляінфарктны перыяд, хвароба Боткіна, анкалагічныя хваробы, бранхіт хранічны, эпілепсія, цяжкая форма цукровага дыябету і інш.). Недапушчальна парыцца нават пры лёгкім нядужанні, якія суправаджаецца павышэннем тэмпературы. Забаронена таксама парыцца цяжарным жанчынам, маленькім дзецям.

Падчас адпачынку нельга астываць да дрыжыкаў – вялікая верагоднасць застудзіць шыйную і пяснічна-крыжавую вобласць спіны, а таксама органы мочапалавой сістэмы.

Не спаборнічайце са "знатакамі" занадта гарачай пары, у першую чаргу глядзіце на сваё самаадчуванне і імкнецеся даставіць сабе задавальненне.

